# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 27 (853) ГОД XVII БЕЛАСТОК 2 ЛІПЕНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.



*Тут прайшоў агонь.*



*Пакуль што каровкі вымушаны начаваць пад голым небам. І... людзі таксама.*

## СУДНЫ ДЗЕНЬ ВІЛЯНОВА



*З мураванага і яшчэ не зусім закончанага дома Генрыка Лонскага засталіся аднак сцены.*

Пасля нядзельнага адпачынку сяляне з вёскі Вілянова, як звычайна, прыступілі да сваіх гаспадарскіх заняткаў. У Сямяціцкім павеце былі яны слаўныя. Нядаўна ж спраўлялі ўрачыстыя ўваходзіны ў новы дом культуры, які ў значнай ступені пабудавалі ўласнымі сіламі. Хвалілі мы іх за гэта і разам з імі цешыліся поспехамі, жадалі шчасця.

І хто б спадзяваўся, што ўжо хутка прыйдзе гэты судны дзень...

Стаю на віляноўскай вуліцы. Перад вачыма старыя дрэвы з пажаўцелым, сухім лісцём, ад агародаў цягне едкім гарам, пачарнелыя рэшткі комінаў тырчаць сярод папялішчаў...

Тут жа, за маімі плячыма, старая Акуліха.

— Я ўжо, паночку, пражыла на божым свеце больш як 80 гадоў, — кажа яна, — а такога няшчасця не бачыла і не чула. Быў гэта судны дзень Вілянова, а я сама, каб не Марыся Дзмітрукова, жывой бы згарэла! Яна мяне з хаты выцягнула.

Быў звычайны, рабочы дзень, панядзелак, 5 чэрвеня 1972 года. Духата стаяла такая, што цяжка было дыхаць. Набліжалася трэцяя гадзіна пасля абеду. І тады...

— Вось тут пачалося, — Ніна Кас'янюк паказвае на асмаленыя рэшткі клуняў і хлявоў сваіх суседзяў: Паўла Кас'янюка і Антона Мікалаюка. — Я якраз абед рыхтавала, а тут чую крык, што пажар... Пра дзяцей сваіх найперш падумала, бо іх у хаце не было. Асабліва за малодшага, сямігадовага Рамана турбавалася, каб дзе ў агонь не ўлез. З хаты выбегла, а тут ўжо галавешкі ляцяць... Конь у нас згарэў і 5 свіней... Ды яшчэ ёсць такія, што на майго сына, на Рамана, усё звальваюць, што нібы ён падпаліў, але гэта няпраўда... — яе голас пераходзіць у плач і рукі пачынаюць трасціся.

Я невыпадкова зайшоў да яе. Прызнаюся, я спадзяваўся гэтай, зусім зразумелай мацярынскай абароны свайго дзіцяці. Пра яе сына я ўжо чуў ад іншых. Ані суддзёю, ані пракурорам не хачу быць. Аднак надта ж згодна розныя жыхары Вілянова — незалежна адзін ад другога — ліха ўспаміналі гэтага Ромка, калі пытаў я іх аб прычыне пажару. З іх слоў склалася жудасная гісторыя. Дзіцянё, мабыць, забаўлялася сабакам, дзіка забаўлялася, падпаліла яму хвост. Сабака вырваўся і схаваўся пад падваліну суседавай клуні. Прыдушыў хвост да зямлі і агонь згас. Раман, каб выпудзіць сабаку з-пад падваліны, пачаў штурхаць яго кіем. Сабака папоўз далей. Тады малы прыдумаў спосаб: рашыў выгнаць сабаку агнём і дымам.

Паўтараю: так гавораць людзі ў Вілянове. Ці гавораць праўду?

— А хто яго ведае! — адказваюць на гэтае пытанне. — Ніхто ж яго за каўнер пры гэтым не злавіў, — дадаюць, засцерагаючыся перад непрыемнасцямі з боку тых, каго абвінавачваюць. — А можа гэта ад бомбаў? — успамінаюць некаторыя з іх. Тут трэба выясніць, што ў Вілянове паявіліся дамарослыя піратэхнікі, спецыялісты ад пабудовы выбуховых забавак з карбіда і вады. Калі гэта праўда, дык у Вілянове дзіўным спосабам грамадская самаахвярнасць пераплятаецца з небяспечнай лёгкадумнасцю, якая простай дарогай вядзе да бяды.

Хапіла ўсяго ледзь 20—30 мінут — стольki часу сваю злавесную песеньку выводзіў над Віляновам чырвоны пятух...

— Я вайну прайшоў, артылерыстам быў, а таго, што тут тварылася, не бачыў! — заяўляе 75-цігадовы гаспадар Кіт Жарначук. — Якраз прыехаў я з лесу, — расказвае ён. — Выпраг каня, яшчэ хамута не паспеў зняць, зайшоў у хату, каб дзе якога баршчу перакусіць... І тады пачалося. Ад распаленага паветра ўзарваўся такі ўраган, як бы з гармат без перапынку стралялі, а вогненныя вехці і галавешкі нясло, як снарады. Мой конь, як ашалелы, бегаў па панадворку, ды сам у агонь лез. Палавіна боку ў яго згарэла, забіць прыйшлося.

У яго суседа таксама конь прапаў у агні.

— На полі я была, — гаворыць Зоф'я Ваўрэнюк. — Лён палола. Пакуль дабегла, дык і ратаваць не было чаго. Дзверы ад хлява адчыніла, але конь не ўцёк.



*— Вось што засталося з маёй маёмасці, — кажа Альяш Юдыцкі.*

Стаю на папялішчы. Пад нагамі рэшткі матацыкла, колы ад веласіпеда і ператоплены электрычны маторчык. Грудка металу засталася з яго.

Другі сусед Альяш Юдыцкі, разам з жонкай Аннай дастаюць з-пад вугалю нейкія перагарэлыя рэшткі жалезных прылад.

— Што цяпер з намі будзе? — пытае ён мяне. — У нас чацвёра малых дзяцей. Засталіся без кала і двара. Пакуль што прыгарнуў нас цесць, але там цесна, няма дзе нават спаць.

Не толькі ў яго аднаго такія патрэбы. У Вілянове згарэлі чатыры жылыя дамы і 43 гаспадарчыя будынкі, а ў іх 7 коней і вельмі многа свіней. Страты ацэньваюць на мільён дзвесце тысяч злотых. У першым тыдні пасля пажару ПЗУ выплаціла ўжо 498 тысяч зл. З дапамогай паспяшала павятовая рада. Пажадаць бы, каб яе зацікаўленне прадаўжалася, бо сапраўды: што рабіць пагарэльцам? Дзе ім жыць? Дзе трымаць жывёлу? Як і з чаго будаваць?

*Віктар Рудчык*
*Фота аўтара*



*— Памалу адбудуемся, — сцвярджае Аляксандр Жэрун (злева), які распачаў ужо будаваць хлеў. Дапамагае яму сусед Мікалай Давідовіч.*

# ◊ Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі ◊

## СВЕТ

### СУПРАЦОЎНІЦТВА З ЮГАСЛАВІЯЙ

Нядаўна закончыўся ў Польшчы афіцыйны візіт прэзідэнта сацыялістычнай Югаславіі Іосіфа Броз-Ціта. Візіт пацвердзіў, што супрацоўніцтва нашых краін развіваецца і будзе развівацца ва ўсіх галінах.

Паколькі найбольш вымерным з'яўляецца эканамічнае супрацоўніцтва, падамо некалькі даных, якія сведчаць аб дынаміцы яго развіцця. У 1968 годзе вартасць узаемнага тавараабароту склала 93 мільёны долараў, у 1971 г. — больш 174 мільёнаў долараў, гэта значыць павялічылася амаль у два разы, а ў параўнанні з 1960 годам (52 млн. долараў) — больш чым у тры разы. У гэтым годзе вартасць тавараабароту мае дасягнуць 180 мільёнаў долараў, але мяркуюць, што будзе перавышана.

За перыяд мінулай пяцігодкі вартасць узаемнага тавараабароту дасягнула 561,7 мільёнаў долараў, а на пяцігодку 1971—75 г.г. запланавана тавараабарот на 850 мільёнаў долараў, г.зн. на 45 прац. больш. Шэраг фактаў паказвае на тое, што двухбаковы абмен у бягучай пяцігодцы значна перакрочыць суму 850 мільёнаў долараў.

### САВЕЦКІ ГАЗ

У даны момант запасы газу ў Савецкім Саюзе ацэньваюцца на 4.000 більёнаў кубаметраў, а здабыча дасягае каля 250 мільярдаў кубаметраў. Дае гэта магчымасці СССР не толькі павялічыць выкарыстанне газу ў сваёй краіне, але экспартаваць яго як у краіны СЭУ, так і ў Заходнюю Еўропу. Ужо падпісана адпаведнае пагадненне з Францыяй, а з Аўстрыяй вядуцца перагаворы на тэму газаправоду, якім савецкі газ будзе перадавацца ў Італію.

### ПАЛІТЫЧНЫ ШПІЯНАЖ У ЗША

Старшыня нацыянальнага камітэта дэмакратычнай партыі Л. О'Брайен узбудзіў судовую справу супраць камітэта рэспубліканскай партыі па перавыбранню прэзідэнта.

У ноч на 18 чэрвеня пяць чалавек, звязаных з рэспубліканскай партыяй, праніклі ў штаб-кватэру дэмакратаў у Вашынгтоне і паспрабавалі сфатаграфаваць дакументы і ўстанавіць абсталяванне для падслухоўвання размоў, але былі затрыманы. Двое з іх, як выявілася потым, аказаліся агентамі Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення.

Л. О'Брайен сказаў, што спроба рэспубліканцаў устанавіць «электроннае сачэнне» за дэмакратамі — «сур'ёзны акт палітычнага шпіянажу».

### ЭЛЕКТРЫЧНЫ АЎТАМАБІЛЬ

Харкаўскія канструктары пабудавалі спартыўны электрычны аўтамабіль. Называецца ён «Хадзі — 5». Аўтамабіль гэты прымаў удзел у спартыўных спаборніцтвах, дасягаючы хуткасць у сярэднім 60,5 км/гадзін. Максімальная хуткасць электрычнай аўтамашыны «Хадзі — 5» 145 км/гадзін.

### ІНІЦЫЯТЫВЫ СУЧАСНАСЦІ

У сербскім горадзе Лескавец, вялікім цэнтры тэкстыльнай прамысловасці, уводзяцца цікавыя ініцыятывы. Жыхары гэтага горада першыя ў Югаславіі карыстаюцца бясплатным уваходам у тэатр. Высунута тут таксама прапанова, каб ліквідаваць білеты на ўсе культурныя і спартыўныя мерапрыемствы.

(ак)

## БССР

### У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

Пад старшынствам Ф. А. Сурганава адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана пытанне аб рабоце Лахвенскага сельскага Савета дэпутатаў працоўных Лунінецкага раёна. Варта адзначыць, што Лахвенскі сельсавет адзначаецца перадавымі паказчыкамі ў арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Вось у 1971 годзе ўраджайнасць збожжавых па сельсавету склала звыш 29 цэнтнераў, бульбы — звыш 200, цукровых буракоў — 312 цэнтнераў. Пабудавана 28 жылых дамоў, 10 калодзежаў, 28 кіламетраў дарог, клуб на 150 месц, даведзен газ да 85 памяшканняў.

### ПЕРАД ЖНІВОМ

Набліжаецца жніво — самы рашаючы перыяд у сельскай гаспадарцы. З многіх саўгасаў і калгасаў Беларусі ўжо цяпер паступаюць паведамленні аб поўнай гатоўнасці да ўборкі збожжа.

Калгаснікі калгаса імя Дзяржынскага ў Дзяржынскім раёне спадзяюцца атрымаць 35 цэнтнераў збожжа з кожнага гектара.

Яшчэ лепшага ўраджаю чакаюць у калгасе «Рассвет» Навагрудскага раёна. Галоўны аграном гэтага калгаса М. А. Севасцьяновіч заявіў карэспандэнту БЕЛТА, што яны разлічваюць атрымаць па 50 цэнтнераў збожжа з гектара. Плён быў бы незвычайна высокі, але паводле агранома зусім рэальны.

«Разлічваем правесці жніво, — гаварыў ён, — не толькі хутка, за 10 дзён, але і без страт».

Калгас «12 гадоў Кастрычніка» знаходзіцца ў Рагачоўскім раёне. Яго працаўнікі плануюць атрымаць па 30 цэнтнераў збожжавых і 170 — бульбы. Не менш высокага ўраджаю спадзяюцца ў Шклоўскім раёне. У сярэднім па раёну 30 цэнтнераў, а ў калгасах імя Кірава, Фрунзе, «Запавет Леніна» — па 37—40 цэнтнераў збожжа з кожнага гектара.

### ФІЛІЯЛ АЎТАМАБІЛЬНАГА

На паўночна-ўсходняй ускраіне горада Асіповічы будаўнікі пачалі падрыхтоўку для закладкі фундамента філіяла Мінскага аўтазавода. Да канца будучага года яны павінны здаць у эксплуатацыю першую чаргу ліцейнага цэха, а ў 1974 годзе пабудова філіяла мае быць закончана.

### ДА ЮБІЛЕЮ

У музеі Янкі Купалы адкрыты дзве выстаўкі: «Лаўрэаты Купалаўскіх прэмій» і «Янка Купала — пясняр дружбы народаў». На выстаўках шмат кніжных выданняў і ілюстрацый.

У музеі выступаюць паэты-лаўрэаты Купалаўскіх прэмій. Адбыліся ўжо сустрэчы з Петрусём Броўкам і Аркадзем Куляшовым.

### ШКОЛА Ў ВЁСЦЫ

Вёска Ганчавічы Клічаўскага раёна да бліжэйшых буйных гарадоў Бабруйска і Магілёва мае 70—80 кіламетраў. Нягледзячы на тое, дзеці ў Ганчавічах вучацца ў прасторнай і прыгожай школе, якая мае вялікую спартыўную залу, уласны стадыён, сталовую, прышкольны інтэрнат, розныя кабінеты. Усе настаўнікі маюць тут вышэйшую адукацыю.

(вр)

## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

20 чэрвеня адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім былі разгледжаны праекты рэарганізацыі мясцовых улад на вёсцы і ў мястэчках, а таксама праекты змен у адміністрацыйным падзеле вёсак. Палітбюро знаёмілася таксама з прапановамі адносна асноўных праблем дзейнасці і ролі грамадскіх звенняў ПАРП. Палітбюро прыняло новы план прапагандысцкай партыйнай працы на трэці квартал гэтага года.

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

17 чэрвеня I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк правёў сустрэчу з палітычным і грамадска-гаспадарчым актывам шахты «Сасновец». I сакратар ЦК знаёміўся з працай партыйнай арганізацыі на гэтым прадпрыемстве, членам якой ён з'яўляецца. Варта адзначыць, што працуе яна вельмі актыўна, у сваёй працы шмат месца адводзіць сацыяльна-бытавым умовам жыцця шахцёраў, справам механізацыі працы і лепшай яе арганізацыі. I сакратар ЦК праінфармаваў партыйны шахцёрскі актыў аб актуальнай працы кіраўніцтва партыі, аб грамадска-эканамічнай сітуацыі ў краіне і аб некаторых праблемах міжнароднай палітыкі нашай дзяржавы.

### ВІЗІТ І. БРОЗ ЦІТА

Пяць дзён правёў у нашай краіне прэзідэнт Югаславіі І. Броз Ціта. На другі дзень свайго візіту прэзідэнт І. Броз Ціта атрымаў званне доктара honoris causa Варшаўскага універсітэта. У час сваёй пабыўкі госць правёў размову з партыйнымі і адміністрацыйнымі ўладамі Польшчы, а таксама наведаў варшаўскую фабрыку аўтамабіляў і іншыя прадпрыемствы. Варта адзначыць, што прэзідэнт Югаславіі атрымаў таксама званне «Ганаровага шахцёра ПНР».

### СУСТРЭЧА П. ЯРАШЭВІЧА

21 чэрвеня старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч прыняў у сябе дэлегацыю спулдзельчасці працы ў сувязі з VI з'ездам ЦЗСП. Дэлегаты праінфармавалі старшыню аб сваіх дасягненнях і актуальных праблемах, аб рэалізацыі грамадскіх абавязацельстваў. На заканчэнне сустрэчы старшыня Рады Міністраў пажадаў дэлегатам далейшай карыснай працы для грамадства.

### ПАСЯДЖЭННЕ ЦЗКР

19 чэрвеня адбылося пасяджэнне Цэнтральнага саюза сельскагаспадарчых гурткоў, якое прысвячалася абмеркаванню праграмы паляпшэння гаспадаркі ў сельскагаспадарчых гуртках.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ ДЗЯРЖАВЫ

Рада Дзяржавы на сваім апошнім пасяджэнні разгледзела справаздачу генеральнага пракурора ПНР аб дзейнасці пракуратуры за мінулы год.

### ЛЕНІНСКАЯ ВЫСТАЎКА

22 чэрвеня ў музеі Леніна ў Варшаве была адкрыта выстаўка «Ленін на польскай зямлі — гады 1912—1914». Выстаўка адкрыта ў сувязі з 60-ай гадавінай прыезду Леніна ў Польшчу. Адкрыў яе член Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП, старшыня Прэзідыума Галоўнага Праўлення ТППР Ян Шыдляк.

(яц)

## ВАЯВОДСТВА

### МІТЫНГ ДРУЖБЫ

У нядзелю, 25 чэрвеня, ў Сэйнах адбыўся польска-літоўскі прыгранічны мітынг дружбы. Сустрэліся дэлегацыі прыгранічных раёнаў Літоўскай ССР з дэлегацыямі з паўночных паветаў нашага ваяводства. Сярод літоўскіх гасцей былі сакратар ЦК КПЛ Альгердас Ферэнцас і I намеснік Старшыні Савета Міністраў ЛССР Ксаверас Карыс. З польскага боку — члены экзекутывы ВК партыі Ул. Юшкевіч, М. Недзведзь і Е. Златажынскі, а таксама кіраўніцтва Прэзідыума ВРН са старшынёй З. Спрыхам.

Ул. Юшкевіч і Альгердас Ферэнцас выступілі з прывітальнымі прамовамі.

Маніфестацыя дружбы закончылася мастацкімі выступленнямі, сяброўскімі размовамі і навязаннем новых добрасуседскіх кантактаў насельніцтва абодвух прыгранічных раёнаў.

### АГУЛЬНАКРАЁВАЯ НАРАДА

На Беласточчыне адбылася 23—24 чэрвеня краёвая нарада Агульнапольскага Камітэта Фронту адзінства народу ў справе працы грамадскім чынам. На нараду прыехалі дзеячы ФАН, прадстаўнікі цэнтральных улад і прадстаўнікі розных ваяводстваў.

Удзельнікі нарады агледзелі сталіцу нашага ваяводства, потым, падзяліўшыся на дзве групы, праехалі па мясцовасцях нашага ваяводства, дзе найбольш было ўкладзена працы грамадскім чынам. Пабывалі таксама ў Бельску, Гайнаўцы і Белавежы. Удзельнікам нарады былі прадстаўлены спецыяльныя матэрыялы «Праца грамадскім чынам у Беластоцкім ваяводстве ў 1944—70 гадах». На нарадзе абмяркоўваліся дасягненні і напрамкі развіцця працы грамадскім чынам у 1972—75 г.г.

### ВЫЯЗНАЯ КАЛЕГІЯ

У Беластоку адбылася выязная калегія Міністэрства фінансаў. Вёў пасяджэнне міністр фінансаў С. Ендрыхоўскі. У працы калегіі ўдзельнічалі старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха і члены Прэзідыума. Абмяркоўвалася фінансавае становішча нашага ваяводства. Звернута была ўвага на тыя справы, якія звязаны з паляпшэннем фінансавай гаспадаркі.

У час пабыўкі на Беласточчыне С. Ендрыхоўскі сустрэўся з кіраўніцтвам устаноў нашага ваяводства, а таксама пабываў на Гайнаўскім драўнінным прадпрыемстве.

### З'ЕЗД СЕЛЬГАСГУРТКОЎ

22 чэрвеня ў Беластоку адбыўся VIII ваяводскі з'езд сельгасгурткоў. У працы з'езду ўдзельнічала каля 160 дэлегатаў, прадстаўнікі ўлад, а таксама шмат прадстаўнікоў устаноў, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку.

Цяпер у нашым ваяводстве працуе 2748 сельгасгурткоў і больш 2900 гурткоў вясковых гаспадынь. У апошнія гады роля гурткоў у сельгаспрадукцыі значна ўзрасла. Сельгасгурткі аказваюць механічныя паслугі для 70% індывідуальных гаспадарак нашага ваяводства.

На з'ездзе падкрэслівалася, што сельгасгурткі павінны стаць ва ўсіх галінах апорай сельскай гаспадаркі.

(яч)




**NIEDZIELA 2.VII.**

8.35 Program dnia. 8.40 „Przypominamy, radzimy". 9.00 „Wiem kim jesteś" — film TVP odc. I („Stawka większa niż życie"). 9.55 „Ptasia Wyspa na rzece Krokodyli" — film ang. („Świat, który nie może zaginąć"). 10.20 „W starym kinie" (Rudolf Valentino w filmie „Krew na piasku"). 11.45 „Australia" — („W cztery świata strony"). 12.30 Koncert na fortepian i orkiestrę a-moll R. Schumanna 13.05 Dziennik. 13.20 „Przemiany". 13.50 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Brzydkie uczucie" („Ula i świat"). 14.10 „Wielki pies" — film fab. USA. 15.00 X Turniej Czytelniczy ZMS. 16.00 „Derby Warszawy" — rep. z wyścigów konnych na Służewcu. 16.50 „Monachium przed Igrzyskami 1972". 17.35 „Klub Sześciu Kontynentów". 18.15 „Piosenka dla Ciebie". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Arsen Lupin" — film franc. 21.05 PKF. 21.15 „Koncert z dedykacją". 22.15 Magazyn sportowy.

**PONIEDZIAŁEK 3.VII.**

16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 17.05 Echo stadionu. 17.30 „Kino Filmów Animowanych". 18.00 „Mahreb Fantasia" — film TOP. 18.25 „Kwiaty w Manoi" — film radz. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Słowacki — „Mazepa". 21.25 „W 30 minut dookoła świata" — program publ. międzyn. 21.55 „Arie i Pieśni śpiewa Krystyna Jamroz". 22.20 Dziennik.

**WTOREK 4.VII.**

10.00 „Carrie" — film fab. USA. 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 16.55 „Oferty". 17.15 „Nic lepszego nad wodę" — program wiejski. 17.45 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Carrie" — film fab. USA. 22.00 „Przejść do błękitu" — fel. film. („Spotkania intymne"). 22.25 Dziennik.

**ŚRODA 5.VII.**

8.15 Matematyka w szkole: „Materiały logiczne w nauczaniu podstawowym". cz. I. 8.50 Matematyka w szkole: „Materiały logiczne w nauczaniu podstawowym" cz. II. 10.00 „Morderca" — film czechosł. odc. V („Wyrok"). 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 16.55 „Teleferie". 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.40 „Z czym na camping" — program ekonom. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.10 „Morderca" — film czechosł. odc. V („Wyrok"). 21.00 PKF. 21.10 „Świat i Polska". 21.40 „Nowiny muzycznej oficyny" — Stanisław Moniuszko. 22.20 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**CZWARTEK 6.VII.**

8.15 Matematyka w szkole: „Materiały logiczne w nauczaniu podstawowym" cz. III. 8.50 Matematyka w szkole: „Materiały logiczne w nauczaniu podstawowym" cz. IV. 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 16.55 Magazyn ITP. 17.10 „Lato nad Szprewą" — film dok. NRD. 17.40 „Polonia na świecie". 18.10 TV Kurier Białostocki. 18.30 „Morskie spotkania". 19.00 „Turystyka i wypoczynek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 V Festiwal Piosenki Żołnierskiej w Kołobrzegu. Koncert inauguracyjny — „W żołnierskiej pieśni". W przerwie ok. 21.25 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**PIĄTEK 7.VII.**

10.00 „Małżeństwo na niby" — film fab. czechosł. 11.35 „Ośmiornica" — film dok. ameryk. kanad. („Człowiek i morze"). 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 16.55 „Teleferie". 17.50 „Franciszek Kostrzewski i inni" — fel. E. Lipińskiego („Historia polskiej karykatury"). 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.35 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Ośmiornica" — film dok. ameryk. kanad. („Człowiek i morze"). 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV na świecie: „Udręka" wg opow. I. Andricza. Spektakl TV Jugosł. 22.10 Dziennik.

**SOBOTA 8.VII.**

10.00 „Świadectwo martwych oczu" — film fab. czechosł. 16.20 Program dnia. 16.25 Program I proponuje. 16.45 Dziennik. 17.00 Program filmowy. 18.00 „Nie tylko dla pań". 18.20 „Szklane domy" — rep. 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Świadectwo martwych oczu" — film fab. czechosł. 21.40 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.05 Teatr Rozrywki: „Uważaj na zakrętach" — komedia A. Marianowicza. 22.55 „Niobe" — film balet. TVP.




**PIĄTEK, 30 czerwca**

8.15 Wszechzwiązkowy przegląd wiejskich zespołów artystycznych. 8.45 Film fab. 11.55 Nowiny. 14.40 Program dnia. 16.40 Film animowany dla dzieci. 17.20 Festiwal TV. Litwa. 19.15 Panorama nowin. 19.30 c. d. festiwalu. 21.00 Czas.

**SOBOTA, 1 lipca**

7.00 Program dnia. 9.00 Spektakl dla dzieci. 9.30 Przegląd Międzynarodowy. 9.45 Szkatułka muzyczna. 10.00 Spektakl dla dzieci. 11.00 Filmy animowane. 11.30 Koncert. 12.30 Film animowany dla dzieci. 12.50 Almanach TV. 13.45 Panorama międzynarodowa. 14.15 Spotkania muzyczne. 14.45 Bal maturalny. 16.00 Nowiny. 16.10 Światła cyrku. 17.35 Seryjny film TV. 1 seria. 19.00 Czas. 19.30 W eterze „Młodość".

**NIEDZIELA, 2 lipca**

6.50 Program dnia. 9.35 Białe i czarne. 9.55 Żołnierskie wspomnienia. 10.25 Nowiny. 10.30 Koncert życzeń. 11.00 Dla żołnierzy. 13.00 Klub filmowy. 14.00 Piłka nożna. CSKA — „Torpedo". 15.45 Trybuna pisarza. 16.00 Nowiny. 17.15 Seryjny film fab. 2 seria. 18.30 Piłka nożna. „Spartak" (Moskwa) — „Karpaty" (Lwów). 19.15 Czas. 21.00 Puchar i mistrzostwa ZSRR w gimnastyce.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 163


I

Я сын зямлі беластоцкай
І іншай мне маці не трэба,
там сосны высока-высокія
ад зямлі да блакітнага неба.
Там рэчкі сінія-сінія
і ветры з далонямі кволымі
бягуць па зялёнай краіне,
як сябры заўсёды вясёлыя.
Там сонца прыходзіць у дрэвы
і дрэвы да сонца імкнуцца,
і вабіць краіна нас спевам,
і просіць і просіць вярнуцца.



II

**О, як знайсці для думак шырыню**
**у свеце добрым, але вузкім.**
**Хаджу па свеце,**
**праўдаю маню,**
**з ідэйнаю нагрузкай.**
**У кожнага свой боль,**
**у кожнага свой крыж,**
**падай другому —**
**кіне ў сметнік.**
**Планету абнялі далонямі вятры —**
**каханнем летнім.**
**Ідэі добрыя, як цесны плашч,**
**у загарадзь загналі мае думкі.**
**Наслепа,**
**напрашчкі,**
**уплаў —**
**шукаць ратунку.**

**Алесь Барскі**

## ДУМКІ — ВАЛАЧОБНІКІ



**Думкі-валачобнікі трывожаць сэрца,**
**Ажываюць цені, шэпты, успаміны.**
**Гора адыходзіць, астаецца песня,**
**Што спявала ў гаі любая дзяўчына.**

**Думкі-валачобнікі, я тут з вамі вечна**
**Буду сустракаць світанні ясныя,**
**На дарозе, картай не намечанай,**
**Дзе жыццё праходзіць поруч з казкамі.**

**Уладзімір Гайдук**

### ПАЦЕРКІ

Густы вясенні дождж паліў
І секануў па вокнах,
Галінкі дрэва пахіліў,
Бо ацякаюць, мокнуць.

Аж заблішчэў на слупах дрот,
Дзе кропелькі малыя
Па дроце коцяцца, як шрот,
Як пацеркі жывыя.

Аж на сярэдзіну бягуць,
Адна адну спіхаюць.
А потым цяжка, нібы ртуць,
Ляцяць уніз, спадаюць.

А дождж нябачнаю рукой
Зноў ніжа іх на дроце,
Хоць на зямлі вада ракой
Бурліць, каменні коціць.

**Л. Танкевіч**



### ЧАМУ НЕ ЛЮБІШ ТЫ МЯНЕ?

**Чаму не любіш ты мяне,**
**Ці ж я так пастарэла?**
**А можа ўжо з грудзей маіх**
**Хлеб есці надаела?**

**Я ж часта мыюся расой,**
**Пад снегам маладзею...**
**І кожнай веснаю парой**
**Ад кветак палымнею...**

**Я ад вякоў дзядоў тваіх**
**Прасякнутая потам.**
**Калі ж пакінеш ты мяне,**
**Я парасту чаротам.**

**Як захвалюю пахам ніў,**
**Табе ж прыемна будзе.**
**І будзь ты мой, а я твая,**
**Прыйдзі на мае грудзі...**

**Калі пажэнімся з табой,**
**Прыйдзеш ка мне ў сваты.**
**Тады, каханы, любы мой,**
**Нам закрасуе свята.**

**А ты сваё, кругом сваё.**
**Ці добра выбіраеш?**
**Калі б любіў крыху мяне...**
**— Чаму ж ты пакідаеш?..**

**У. Шклярук**

* * *

Да цябе прыду —
калі захочаш —
Удзень, а змроку доўгім, ці ўночы
І, прыпаўшы да крыніцы,
З губ тваіх я выкрашу і плеч,
І з грудзей, напоўненых надзеяй,
З глыбіні ўсяго зняволенага цела
На жыццё ўсё
Нешта з прыгажосці,
Нешта з адзіноцтва,
Нешта з непаўторнасці,
І нешта вельмі практычнае —
Купім калыску
І будзем у яе нутро глядзець,
Як у перспектыву вечнасці.

**Я. Чыквін**



## Росцьвіла наша піесьня

**На дворіы вжэ нуоч запала,**
**Ціела зала повна стала.**
**Прыйшлі людэ заспіваты**
**Сэрця радосьць показаты.**

**Вжэ «журы» за стуол засіело**
**До роботы прыступіло.**
**Уставілі мікрофон,**
**Коб слухаті піесень звон.**

**Дружно хлопці йі дівчаты,**
**Разом будэмо співаты,**
**Про кудравы сіній лён**
**І шумячы лісьцём клён.**

**Маня й Коля з Гайнувшчыны,**
**Заспівалі про каліну,**
**Што сіє біылым цвіетом**
**У зэлёнум лузі ліетом.**

**Піесня —**
**«Як я була мала, мала»**
**Найбуольш усіем сподобалась,**
**А співалі йіы дывчыны**
**Жэня й Ніна із Бельшчыны.**

**Як жэ всіе дзісь вэсэляцця,**
**Руодной мовой гонарацьця.**
**— В БэГэКаТэ росцьвіла**
**Наша піесьня із сэла.**

**Ваня Кірызюк**

## ◆ ДЭБЮТ ◆ ДЭБЮТ ◆ ДЭБЮТ ◆



### Ірэна ВАСІЛЮК

*«Нарадзілася я 13.VI.1956 г. у вёсцы Залешаны Гайнаўскага павету. У школу пачала хадзіць у вёску Сакі, дзе скончыла 4 класы. Кіраўніком гэтай школы быў М. Майстровіч. Ён прывіў мне любоў і пашану да беларускай мовы. Далей працягвала я сваю вучобу ў Бельску ў школе № 3. Цяпер вучуся ў I класе Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча.*

*Беларускую мову вельмі люблю і таму стараюся на ёй пісаць свае вершы. Цікаўлюся таксама гісторыяй Беларусі. Люблю чытаць кніжкі беларускіх пісьменнікаў, таксама вельмі люблю чытаць «Ніву».*

### МАМЕ

Як я цябе, мамачка, люблю,
Хай скажа гэта сонца,
Што раніцой на небе ўзышло
І, цалуючы прыроду ўсімі
праменнямі,
Душу маю абагрэла.
Як я цябе, мамачка, люблю,
Хай скажа гэта вецер,
Што ласкава калыша васількамі,
Хай скажуць птушкі, што пяюць
Мне песні роднай стараны.

Як я цябе, мамачка, люблю,
Хай скажа гэта ніва,
Што ўзрасла на роднай зямлі
І цяжкія каласы схіляе,
Ціхенька шэпча ўначы.

Як я цябе, мамачка, люблю,
Хай скажа рэчка гэта,
Што хваляй ў даль бяжыць,
Хай скажа песня - салавей,
Хто так табою даражыць.



### Ірэна БАРАВІК

*«Мне 16 год. Вучыцца пачала ў пачатковай школе ў вёсцы Мора. Ужо ад першых гадоў навучання я вельмі палюбіла кніжкі. І гэтая любоў да кніжак не пакідае мяне дагэтуль. Вельмі цікаўлюся гісторыяй Падляшша і ўсёй Польшчы. Цяпер я вучуся ў Медыцынскім ліцэі ў Бельску. Пісаць пачала ў пятым класе пачатковай школы. Пішу на польскай і беларускай мовах».*

### НАВОШТА

Навошта
людзі
няпраўду гавораць.
Навошта
людзям
зайздрасць патрэбна.
Навошта
людзі
злыя бываюць.
Навошта
гэта
навошта ім...
Можна
жыць
без абману.
Можна
жыць
без зайздрасці.
І
трэба
жыць так.
І
трэба
добрым быць.



 

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

# Свята вясковага спорту

Нядзеля, 11 чэрвеня. На спартыўнай пляцоўцы непадалёку Валілаў-станцыі (Беластоцкага павету) сабраліся спартсмены з Гарадка, Страшава, Валілаў-станцыі, Валілаў-вёскі і Грыбаўцоў. У 14.00 гадзін пачынаецца грамадская спартакіяда. Прыўзняты настрой. Незвычайная падзея ў вясковым асяроддзі. На лясную паляну, на якой пачалі размінку спартсмены, сыходзяцца гледачы, жыхары навакольных вёсак. Найперш выступаюць школьнікі пачатковых школ. Кідаюць яны мячык, якім іграюць у лапту. І вось маем першых пераможцаў. Найлепшыя вынікі атрымаліся: у Вальдэмара Радэля з Гарадка (52 м), у Юркі Бурчака з Валілаў-станцыі (51 м) і ў Яўгена Марчэўскага з Гарадка (50 м). У іншым месцы на спортпляцоўцы вясковыя асілкі кідаюць ядро. Найлепшы вынік у Янкі Ясюковіча з Гарадка — 14,55 м. Другое і трэцяе месцы займаюць Юрка Верабей — 13,60 м і Славамір Фукс — 12,50 м. На скочні скачуць найлепшыя. Перамагае Ян Ясюковіч вынікам 6,23 м. Другое і трэцяе месца займаюць: Чэслаў Хвойка з Гарадка (5,86 м) і Славамір Фукс з Гарадка (5,67 м). У футбольных розыгрышах выступаюць каманды з Гарадка і Валілаў-вёскі. Перамагае гарадоцкая каманда (13:2). У бегу на 1000 метраў перамагае Чэслаў Хвойка. У спаборніцтвах на матацыклах перамог Леанід Кулеша, а наступныя месцы падзялілі: Янка Філіновіч, Юрка Сілкін і Лех Гудэль. У конкурсе на супрацьалкагольныя тэмы першае месца заняў калектыў з Валілаў-станцыі, другое месца — калектыў з Грыбаўцоў і трэцяе — калектыў з Валілаў-вёскі. Удзельнікі конкурсу атрымалі каштоўныя рэчавыя ўзнагароды. На спортпляцоўку выходзяць школьныя футбольныя каманды з Грыбаўцоў і Валілаў-станцыі. Пачынае цярусіць цёплы чэрвеньскі дождж, затым л'е ён, як з вядра. Усе хаваюцца пад лапкі густых елак і сасонак. Але дождж л'е няспынна і таму надыходзіць пара разыходзіцца. Свята спорту ў гарадоцкай грамадзе заканчваецца.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*



*Найлепшыя скакуны: Ян Ясюковіч (I месца), Чэслаў Хвойка (II) і Славамір Фукс (III).*



*Мяч у вароты заганяе матацыкліст Янка Філіновіч.*



*Найлепшыя ў кіданні мячыкам: В. Радэль, Ю. Бурчак і Я. Марчэўскі.*

сам і сацыяльна-псіхалагічная драма Купалы «Раскіданае гняздо».

Адна з галоўных асаблівасцей паэтычнага стылю Купалы — яго блізкасць да народных-песенных вытокаў. Гэтым тлумачыцца незвычайная музычнасць і спеўнасць яго верша. Наогул, можна сказаць, што фальклор даў Купале ўсё: бо ж ён быў для яго і школай, і універсітэтам, і невычэрпнай крыніцай натхнення, і меркай сапраўднай паэзіі. Купала — паэт народны ў самым дакладным сэнсе гэтага слова. Але гэта — паэт выключна высокай паэтычнай культуры. Па агульнай культуры пісання, па чараўнічаму абыходжанню з вершаваным радком, са словам і гукам, па той ролі, якую ў Купалы адыгрывае кампазіцыя, строфіка і рытміка, у беларускай паэзіі з ім можа раўняцца хіба што адзін Максім Багдановіч.

Колькі не чытай Купалу — ніколі не перастанеш здзіўляцца, якая бязбрэжная і магутная стыхія жывой народнай мовы бурліць, і кіпіць, і бушуе ў прывідных берагах форм і жанраў. Нахлынуўшы, яна абвальваецца на нас, як лівень, як вадапад, як сонца, яна ахоплівае, прыцягвае і зачароўвае тысячамі колераў і гукаў, тысячамі адценняў і пераліваў. Купала знаходзіў слова так, як яго знаходзіць народ — яно быццам прыходзіць само, нечакана, раптоўна, і заўсёды — дарэчы, да месца, і заўсёды — трапнае, адзіна прыдатнае. Здаецца, для самога паэта няважна, падслухана ім недзе гэта слова ці прыдумана самім — магло быць і тое і другое. Нешта магічна-язычаскае — ад загавораў, ад закляццяў, ад дзіцячых гукаперайманняў чуецца ў захапленні паэта роднай мовай. Такое абыходжанне з мовай — пасведчанне незвычайнай чуласці да слова, уласцівай толькі паэтычнаму генію самога народу, што даказалі казкі, легенды, песні, пагаворкі.

Ад самых першых сваіх песень і праз усё жыццё Купала пранёс, як святыню, у сваім сэрцы вялікую думу «аб долі і волі» народу. Лёс пакіраваў так, што і апошняя песня вялікага баяна беларускай зямлі абарвалася на тых самых думках». «Зноў будзем шчасце мець і волю» — назваў паэт свой апошні верш, напісаны незадоўга да сваёй трагічнай смерці. У цяжкі для радзімы час, калі беларускую зямлю таптала і выжыгалі агнём фашысцкія орды, Купала не траціў веры ў перамогу, у зварот шчасця і волі яго народу і Бацькаўшчыне.

Мінаюць гады. Яны аддаляюць ад нас час, у якім жыў і працаваў паэт. Але яны не ў сілах аддаліць ад сэрцаў мільёнаў яго натхненне, палымянае, заўсёды жывое, «як вада і як агонь», слова. Слова паэта, які ўсё сваё жыццё — ад першых да апошніх дзён — ірваўся душою і думкай да сонца.

*Ніл Гілевіч*

# З КУЛЬТУРНАЙ НІВЫ САКОЛЬШЧЫНЫ

## НОВЫЯ КЛУБЫ.

Яшчэ ў гэтым годзе ў Сакольскім павеце народзяцца новыя клубы. У Гуранах хутка адкрыецца вясковы дом культуры з клубам, бібліятэкай, чытальняй. Вярхлессе атрымае клуб рольніка, Тшцянка — клуб «Руху», у Маеве і ў Снашы Горным будуць клубы рольніка, а ў вёсцы Бярвішы — бібліятэка. Вёска Гаркавічы ўжо ў канцы чэрвеня атрымае клуб «Руху». Такім чынам усё больш на сакольскіх вёсках узрастае базіс для культурна-асветнай працы.

## ДЗЕ Б МАГЛІ...

Папрасіла я нашых сяброў з Саколкі назваць вёскі, дзе б маглі працаваць калектывы з беларускімі п'есамі, песнямі і ўвогуле на беларускім рэпертуары. Такія магчымасці маюць: Крынкі, Сухінічы, Слоя, Сачкоўцы, Гураны і ўсе Астравы, а асабліва Паўночны Востраў. Усе гэтыя вёскі маюць клубы або святліцы. У Гуранах у хуткім часе будзе вясковы дом культуры. Ёсць надзея, што разам з вясковым домам культуры ў Гуранах распачнецца жывая дзейнасць калектыву, ці тэатральнага, ці харавога, ці эстраднага.

## ЦІ НАРОДЗІЦЦА ХОР У КРЫНКАХ?

Цікава справа пачалася ў Крынках. Багатае прагрэсіўнымі традыцыямі мястэчка выступіла вясной з ініцыятывай, каб арганізаваць у Крынках хор. Моцна ў справу гэтую заангажаваўся старшыня мясцовага ГРН-у. Падхапілі яе павет і ГП БГКТ. Ды прайшоў вясенні лівень, і зноў ціха стала ў Крынках. А інспектар па справах культуры прэзідыума ПРН у Саколцы кажа: «Мы за тое, каб у Крынках быў хор. Дамо ўсё, што трэба і што ад нас належыцца. Апошняе слова за Крынкамі. Ім самім трэба сабраць адпаведную колькасць харыстаў».

## АДКРЫЦЦЁ СНІЧАН

Пішучы аб многіх цікавых пачынаннях на Сакольшчыне, грэх было б не ўспомніць пра вёску Снічаны. Напішам тут толькі пару слоў пра яе. Вось іменна пры нагодзе сакольскага павятовага агляду мастацкай самадзейнасці выявіўся цікавы эстрадны калектыў з вёскі Снічаны. Ён сам сабе апрацаваў праграму, маналогі па-беларуску на тэму вясковага жыцця-быцця, песні сваёй вёскі. Іграюць на старынных музычных інструментах, якія таксама самі робяць. Калектыў выклікаў вялікае зацікаўленне ў павеце, а мы збіраемся наведаць малавядомую дагэтуль вёску і яе людзей. Тады раскажам больш пра Снічаны. (вл)




У кнігарні ў Саколцы, вул. Гродзенская 5, знаходзяцца ў продажы наступныя кнігі на беларускай мове:

Багдановіч Максім, «Маладзік», Мінск 1968, 292 стар., цана 7 зл. 50 гр.

У гэты эстэтычна выдадзены аднатомнік увайшлі лепшыя лірычныя творы і пераклады на беларускую мову з паэтычнай спадчыны класіка беларускай паэзіі.

Аднатомнік рэкамендуем ва ўсе бібліятэкі, у тым ліку і ў школьныя, дзе выступае навучанне беларускай мовы ў класах V—VIII. Будзе ён таксама вельмі прыемным набыткам і хатняга кнігазбору ўсіх любіцеляў беларускай паэзіі.

Пестрак Піліп, «Апавяданні», Мінск 1970, стар. 208, цана 3 зл. 40 гр.

У зборнік увайшлі лепшыя апавяданні розных год, якія выйшлі з-пад пяра вядомага пісьменніка старэйшага пакалення. Дзейнасць і творчасць П. Пестрака ў многім звязана з гераічным змаганнем Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі супроць санацыі, капіталістаў і абшарнікаў у міжваеннай Польшчы.

Рэкамендуем у бібліятэкі і ўсім, хто цікавіцца часамі мінулымі і днём сённяшнім заходніх абласцей Савецкай Беларусі.

Пушча Язэп, Мінск 1968, 176 стар., цана 5 зл. 80 гр.

Спецыяльнае малафарматнае аднатомнае выданне лепшых паэтычных здабыткаў беларускага паэта старэйшага пакалення. Рэкамендуем не толькі тым, хто камплектуе выданні цыкла «Бібліятэка беларускай паэзіі», але ўсім зацікаўленым беларускай паэзіяй.

Ярош М. Р., «Янка Купала і беларуская паэзія». Мінск 1971, 256 стар., цана 12 зл. 60 гр.

Манаграфія аднаго з выдатных вучоных, даследчыкаў творчасці Янкі Купалы. Яна прысвечана ў асноўным адной з галоўных праблемаў навукі і літаратуры — узаемным сувязям традыцыі і наватарства.

Рэкамендуем усім, хто цікавіцца гісторыяй беларускай літаратуры, але ў першую чаргу цяперашнім і будучым студэнтам стацыянарнага і завочнага аддзяленняў беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

Пісьменнікі Савецкай Беларусі, Кароткі бібліяграфічны даведнік, Мінск 1970, 440 стар., цана 8 зл. 20 гр.

Самы новы і самы поўны даведнік пра жыццё і выдадзеныя творы 389 беларускіх савецкіх пісьменнікаў, крытыкаў, драматургаў і літаратараў.

Рэкамендуем кожнаму мець гэты вельмі карысны даведнік. А ў першую чаргу ён павінен апынуцца ва ўсіх бібліятэках — публічных і школьных.

«Дом кнігі» ў Саколцы ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні трэба накіроўваць па адрасу: «Dom Książki», Sokółka, ul. Grodzieńska 5, woj. białostockie. (мг)




...ваяводская арганізацыя Таварыства прыяцеляў дзяцей (ТПД) налічвае зараз 30 тысяч членаў, згуртаваных у 1166 гуртках. Найбольш членаў ТПД дзейнічае ў Сямяціцкім і Бельскім паветах. У мінулым годзе ТПД арганізавала прадшкольнае выхаванне ў 376 месцах і 217 дзяцінцаў. Найбольш курортных кватэр для дзяцей арганізавалі ТПД у Аўгустове, Бельску Падляшскім і Сямяцічах. (ця)

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

## ВЯСЕЛЬНАЯ




*— Ой ты думала, мая матулю,*
*Што ніколі ні збудзеш.*
*А ціпер плачэш, забіваешся:*
*Ніколі ні забудзеш.*
*Ой, пойдзеш, пойдзеш,*
*Мая матулю, за гару жыто жаці.*
*Ой, зажнеш, зажнеш шуроку*
*постаць —*
*Некаму паджынаці.*

*Ой, зажнеш, зажнеш,*
*Мая матулю, і з гары ў даліну,*
*Спаменеш міне, мая матулю,*
*Да сем раз на гадзіну:*
*— Німа дзіцяці, німа роднаго,*
*Некаму жыта жаці.*
*Німа дзіцяці, німа роднаго,*
*Некаму памагаці.*

Запісаў Мікалай Гайдук 22 красавіка 1972 г. ад Лідзіі Салавей 1921 г. нараджэння, якая жыве ў вёсцы Лявонавічы, Беластоцкага павету. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Сяргей Лукашук.

 

# Заўзяты пакупнік

Ва універмагу ён падышоў да аддзела галаўных убораў і папрасіў прымераць капялюш.

— Калі ласка, — ветліва адказала прадаўшчыца і падала капялюш. Пакупнік доўга круціў яго ў руках, аглядаў з усіх бакоў, праверыў ворс, падкладку. Потым уздзеў капялюш і з безнадзейным выразам твару разглядаў сябе ў круглым люстэрку.

— Гэты не падыдзе, — вяртаючы капялюш, сказаў ён. — У ім я, нібы замежны мільянер. Пакажыце вунь той шэры, з вузкімі палямі.

Падала.

— Э-э, не. Не падыходзіць. Пакажыце вунь той сіні, зверху...

Падала.

Пакупнік насунуў сіні капялюш на самыя вочы, а потым у люстэрку твар яго нездаволена скрывіўся.

— Гэты хіба падыходзіць для рыбалкі або для лазні. Падайце які-небудзь яшчэ...

— Грамадзянін, вы доўга яшчэ будзеце марочыць галаву сабе і прадаўшчыцы? — запярэчыў хтосьці з пакупнікоў.

...Ён перабраў яшчэ некалькі капелюшоў. Нарэшце, нічога не купіўшы, накіраваўся ў аддзел радыётавараў. Перабраў усе маркі тэлевізараў. Круціў рэгулятары, праверыў выразнасць на экране.

— Ведаеце, я яшчэ пагавару з жонкай, — праз нейкі час сказаў ён. — Купіць гэтую рэч без яе згоды не рашаюся.

У аддзеле верхняга адзення ён з паўгадзіны прымяраў касцюмы. Але яму не падабаліся то колер, то гузікі. Калі доўгая чарга пакупнікоў вывела яго з прымяральні, ён абяцаў зайсці ў другі раз.

Пахадзіўшы яшчэ па аддзелах, ён спыніўся ля новенькіх матацыклаў. Кожную машыну недаверліва абмацваў, абнюхваў. Заглянуў нават у бензабак.

— Можна завесці? — звярнуўся ён да вусатага прадаўца ў сінім халаце.

— Матацыклы ўсе выпрабаваны на заводзе. Для кожнага ёсць гарантыя. Завесці, калі ўмееш, можна.

— Не падабаецца мне ў іх адно: нізкаватае ветравое шкло...

— Грамадзянін, не перашкаджайце прадаўцу працаваць! — пачалі пярэчыць пакупнікі.

Ён моўчкі адышоўся на сярэдзіну залы. «Што ж я сёння хацеў купіць? — дастаючы папяросы, каб закурыць, прамармытаў ён сам сабе. — А-а, успомніў! Жонка прасіла купіць запалкі...»

*В. Рамашка*



# НІЎКА

## Галаваломка




З 13 адрэзкаў зложыце прамавугольнік.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*




## Ад вас не залежыць

*— Затрымайся, чалавеча,*
*На адно славечка:*
*Калі пойдзем мы па сцежцы,*
*Ці будзе там рэчка?*
*— А ўсё роўна, так ці так,*
*Маладыя людзі,*
*Хоць ідзіце, хоць сядзіце,*
*А рака там будзе!*

### УЗРАДАВАЎСЯ

Габравец пайшоў у бакалейную краму. Ідучы думаў, — купляць яму паўкіло маслін альбо кілаграм.

— Кіло маслін, сказаў ён, увайшоўшы.

— І палавіны не набярэцца, — адказаў гандляр.

Габравец уздыхнуў і сказаў сам сабе: «Добра, што я папрасіў цэлы кілаграм!»

### ЦІ ВЫЙДЗЕ?

*Доктар.* Малады дружа, калі вы хочаце заспакоіць свае нервы, паспрабуйце ў час работы закурыць.

*Пацыент.* Наўрад ці выйдзе што з гэтага. Я — вадалаз.

*Міхась Скрыпка*

## Адкуль такія...

Яму няма і дваццаці,
А ён паспеў так абрасці
Калматай барадою,
Вусатаю нудою.

Ідзе праспектам, трынкае
Транзістарам-катрынкаю,
А побач, з хлопцам у абдымку,
Ідзе рэкламная дзяўчынка.

Ідуць яны па вуліцы,
Як кацяняты, жмурацца.
Глядзяць на ўсіх з пагардаю,
Хоць самі смеху вартыя.

### ВЯДОМЫ

Кніжнаму выдаўцу Карлтону ў свой час не спадабаліся першыя творы Марка Твэна, і ён адаслаў пачынаючаму пісьменніку ягоныя рукапісы. Праз дваццаць гадоў Марк Твэн — пісьменнік з сусветным імем — і выдавец сустрэліся.

— Мой дарагі Твэн! — усклікнуў Карлтон. — На свеце існуе адзін чалавек, які яшчэ больш вядомы, чым вы. І чалавек гэты — я! Два дзесяцігоддзі назад я вярнуў вам вашыя творы, але і сягоння яшчэ мяне лічаць самым вялікім аслом стагоддзя!



*— Надаелі забойствы, выстралы. Хочацца проста паглядзець на хвалі.*

### НЕ ДЗІВА

Аліўе сустракае на вуліцы немаладога чалавека.

— А, гэта ты, Дзюран! — радасна ўсклікае ён. — Як ты змяніўся! Ты быў стройны, а цяпер стаў таўсцяком! Ты быў высокі, а цяпер нейкі маленькі! Як жа ты змяніўся, Дзюран!

— Прабачце, мяне завуць не Дзюран, а Дзюпон.

— Не дзіва, што ў цябе нават прозвішча змянілася!

### ВОДПУСК

Кавальскія збіраюцца ў водпуск. Муж непакоіцца, што рабіць з дзецьмі.

— Дзяцей аддамо маме, — гаворыць жонка, — сабаку і канарэйку цётцы Парасцы, а кошку возьме дворнік.

Муж задумліва ўтаравіўся ў акно.

— Ну, аб чым ты задумаўся?

— Я думаю: калі ў кватэры будзе так ціха, навошта нам кудысьці ехаць? Можна і дома адпачыць!

### СЫНОК

«Ну, як ваш сынок? Дапамагае ўжо бацьку?»

Тут падыйшоў Кіндзюліс і заўважыў:

«Дапамагае. Учора разам бацькаву зарплату прапілі».

### ЖОНКА НЕ ЎГАДАЛА

Муж прынёс дадому зарплату. Жонка пералічыла грошы і кажа:

— І сёння не хапае трох рублёў... Можа зноў скажаш, што пазычыў суседу?

— Ты памыляешся, я суседу тры рублі даўгу аддаў.

### ДЗІЎНА

Дзіўна, як гэта нікому не прыйшло ў галаву ўключыць у лік выйгрышаў па латарэі не толькі аўтамашыну, але і гараж.





### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Басі, Ліды і Ані з Бельска змяшчаем песню.*

## ДАРОЖКА ДА ЛЮБАЙ

Многа ў полі тых дарожак,
Не абыйдзеш іх за дзень,
Ды няма мілей за тую,
Што да мілае вядзе.

Лёгка йсці па той дарожцы
Каля рэчкі і садоў,
Аж да самае каліткі,
Дзе жыве мая любоў.

Сядзем з мілай у садочку,
Там, дзе яблыня шуміць,
За гаворкай не заўважым,
Як і ночка праляціць.

Я сказаць аб тым не ўмею,
Як я мілую люблю,
Калі дзень яе не бачу,
Ночку цэлую не сплю.

Свецяць зорачкі уночы,
Патухаюць яны днём,
А маёй галубкі вочы
Свецяць вечна мне цяплом.

Лёгка йсці па той дарожцы,
Што да мілае вядзе,
Па ёй самі ногі ходзяць
І не стомяцца нідзе.










### НЕБЯСПЕЧНАЕ «ХОБІ»

Каля 44 тысяч чалавек прадсталі ў 1971 годзе перад англійскімі судамі за магазінныя крадзяжы, паведамляе газета «Сан». Гэта праблема становіцца для краіны сапраўдным «стыхійным бедствам». Агульная сума тавараў, якія штогод выкрадаюцца ў магазінах Англіі, піша «Сан», ацэньваецца ў 150 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў, што складае адзін працэнт ад усяго тавараабароту краіны.

### ПРЫЕМНАЕ З КАРЫСНЫМ

У шведскім заапарку Кольмаардэн з'явіўся новы атракцыён. Шымпанзе Йейе і Тутан «малююць» карціны, якія тут жа прадаюцца аматарам малпавага жывапісу па 350 крон за штуку. Выручка ідзе на пакрыццё расходаў па ўтрыманню малпаў. Як сцвярджае наглядчык заапарка, яны займаюцца «жывапісам« з вялікім задавальненнем.

### ЭЛЕКТРОННЫЯ НАРУЧНІКІ

Амерыканскі сацыёлаг прафесар Джэральд Сміт вынайшаў наручны міні-перадатчык, з дапамогай якога, як ён мяркуе, можна ўтрымаць ад парушэнняў закону датэрмінова выпушчаных на волю злачынцаў.

Гэты перадатчык звязаны з апаратурай, што ўстаноўлена ў паліцыі, і аўтаматычна ўключае сігнал трывогі, калі той, што знаходзіцца пад наглядам, паспрабуе скінуць перадатчык з рукі або пакінуць пэўны раён, які кантралюецца паліцыяй. Душэўны стан чалавека, які пастаянна носіць гэтыя электронныя наручнікі, прафесара Сміта не хвалюе. «За кратамі яшчэ менш волі», — зазначае ён.



*Блыха на ільве лічыла сябе асобай, блізкай да цара.*